*“Будуць помніць, хто голавы зьвесіў;*
*Іх успомняць сардэчнаю ласкаю.*
*Мы – апошнія зь першых буравесьнікаў,*
*Мы – апошнія зь першых ластавак.”*
*А. Вольны*

н

о

ч

расстраляных

# паэтаў

1937

Зборнік выбраных вершаў паэтаў, расстраляных у ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ў сутарэннях турмы НКУС у Менску.



Шчыры дзякуй усім за кансультацыі.

Гэта кніга пабачыла свет дзякуючы падтрымцы:










Вільня
2023

# איזי חריק

פונדאנענ שרײַ איכ אזש צומ צענטנ דאָר,
צומ צענטנ, צומ עלפטנ אונ צומ הונדערטנ:
אונדזער ביינערדיקע, שטײַפע וואָר
זאָל פאר אײַכ ניט אופגיינ, ווי א וווּנדער!

ערגעצ דאָרט אינ זומערדיקנ לאנד
מיט טאָג פארבליבענע אפ שטענדיק,
זאָלט איר כאָטש מיט א בענקשאפט אינ דער האנט
ניט קרוינענ אונדז מיט שטויבנ פונ לעגענדנ.

זאָלט איר כאָטש ניט באקרוינענ אונדז די קעפּ
מיט געוועבנ זוניקע אונ דינע...
מיר זײַנענ דאָ געוועזנ אונ געלעבט
אינ ליבשאפטנ, אינ ווייטעק אונ אינ סינע.

מיר האָבנ דאָ די ציגל נאָר צעלייגט
אונ זיכ אליינ אוועקגעלייגט פאר ציגל.
ביז טיפנ בלוט אזוי געבענקט
פארמאָגנ אויכ צוויי אומרוּיִקע פליגלענ.

מיר זײַנענ דאָ געגאנגענ אפ דער ערד
מיט שטויב פונ כורבנ אפ די ארבל...
אונ אונדז איז נאָר געווענ באשערט
זינגענדיק דאָ לייגנ זיכ אונ שטארבנ.

זאָלט איר כאָטש דאָרט אינ זומערדיקנ לאנד
נאָכ אונדז פארבלוטיקטע ניט בענקענ.
פונדאנענ שטרעק איכ אויס צו אײַכ מײַנ האנט:
– טײַערע, באפליגלטע, ניט קרוינט אונדז!





Адсюль крычу я сэрцам і душою
Наступнага далёкім жыхарам:
Хай сённяшняе нашае, зямное
Жыццё-быццё не здасца цудам вам.

Далёка там, у прышласці шчаслівай,
Шукаць для нас не ўздумайце акрас,
Не аздабляйце лірыкай гуллівай,
Легендамі не карануйце нас!

Не карануйце нашыя галовы
Карункамі, сатканымі з святла...
Мы тут былі, мы тут жылі сурова,
І праўда нас суровая вяла.

Мы першыя цагліны закладалі,
І кожны ў мур цаглінай лёг жывой...
Мы ўсе да болю ў сэрцы смуткавалі
Аб пары крыл мяцежных за спіной.

Праз пыл руін мы крочылі калонай,
З'яднаныя ў адзіную сям'ю...
І суджана яшчэ адно было нам –
Пакінуць з песняй гэтую зямлю.

Таму і шлю без смутку, без тугі я
Ад нас, ад акрываўленых, наказ...
Адсюль крычу я ў заўтра:
– Дарагія, Крылатыя, не карануйце нас!

(пераклад Аркадзя Куляшова)

Мой курс пракладзены здаўна,
я з карабля сачу прасторы:
няма ні берагу, ні дна,
у далеч, дзе смугі сцяна,
на сум па чалавеку хворы.
і я вітанні шлю праз моры

У шэрым змроку дзень растаў,
у шэрым змроку гаснуць вочы.
бы колас, што з зямлі паўстаў,
каб у зямлі заснуць аднойчы.
Маё юнацтва — звон актаў,
маё юнацтва чэзне ў ночы.

(пераклад Ганна Янкута)

Век настане такі:
ўсім на зайздрасьць вякам,
Ані я, ані ты — будуць іншыя там…
Мне ўсё роўна:
ён знойдзе, мой сын, альбо не —
Акрываўлены камень у чыстай сьцяне.
Мы жылі у нянавісьці, у барацьбе.
Ой ты, шчасьце маё, я ня варты цябе.
Ноч за ноччу мінае, дні ідуць чарадой.
Калі што застанецца, дык наш непакой.
Калі што застанецца, дык вецер, які
Нас узносіў у будучыя вякі.

Я хачу няшмат чаго —
суму, каб разьвеяцца,
Ды таго, гарачага,
Што ў вачах сінее так.
Я хачу, каб — першае —
сэрца білась песьняю,
Каб працоўных вершамі
Захапіла, ўзьвесьніла…
Я хачу — і будзе мо —

Каб паменей холаду,
Каб жыцьцё у грудзі нам
Улівала
моладасьць.
Я хачу, каб век малы
Скончыць
перамогаю.
Без пакуты, зьдзекваньня
Йсьці сваёй дарогаю.
Я хачу ня згубы,
Толькі крыху
радасьці,

Ды каб тая, любая,
Да пары ня здрадзіла!..









Зімовая радасць.

Ёсць настроі... А ў іх - пераліўы.
Ёсць часіны - здаюцца сном,
Толькі той на свеце шчаслівы,
Хто узімку жыве, як вясной!
Я стаю адзінокі на полі, -
Ціха сыплецца золкаў пясок.
Распрануўся вецер - і колы -
Па раллі - ў карагодны скок!..
Дуб галлё пабялелае звесіў,
І не ведаю - можа, ўва сне -
Паваліўся зялёны месік.
На калені ў срэбны снег.
Вецер шэпча ліхія пагрозы -
Колькі злосці... Куды ж яе дзець?..
Прытулілі б мяне вы, марозы,
Да асмужаных беллю грудзей!..
Я раздумаў - не вылью слязамі,
За мяне - хай скрыгоча зіма...
Ой ты, замець - сівая замець, -
Прыгажэй за цябе - няма!..

Расплясkалася ў прасторы сонца. Зелянее стромкая трава. Ад жыцця не стану я ўстаронцы, Буду ранне шчыра вартаваць.

Льецца з клёнаў жоўтае лісцё.
Прывітаю я жыццё і словы,
Як вітае родны брат сясцёр!..
Будуць песні раўчакамі ліцца -
І не сядзе на суку тым жаль.
Не пахіліць лозаў вецер ніцы,
Не загіне ў просіні мяжа.
Заглядзіцца месяц сівагрывы,
Дол пакрые тонкім серабром.
Пройдзе ноч няскончаным урыўкам,
Каб схавацца ўранні за гарой.
У прасторы – Ураган сваволіць.

ПАНТАМІМІЧНЫ ГЭСТ

Россыпамі літараў
папера ўвабрана,
Мозак узрушан нясьлінянымі ямбамі.

Што гэта?

Гісторычная панорама,
Раскевечаная тлустымі фарбамі?
Друкуй рубільнікам!
каб сьвятла болей!
Замала сонечнага
сьвятла для нас,
Рух трымаць
не па крывой параболе,
А па зямлі,
намі ўслаўленай.

Вось яно:

рукі закасаны, –
не шукай ратунку,
Галава ня скінецца
ад трансмісыйных
казусаў.

І...
сэрца,
здэцца,
выскачыць
прастрэленым ладункам –
радасна.

Ідзем ад Нараўскай брамы
ды на вуліцу Стачак,
на штурм, – высокі набой.
Там, дзе калісь месяц,
як бядак,
жабрачыў.
Там, дзе
нашы хлопцы
ляглі галавой.
Туды ідзем,
дзе пераблыталіся
правады антэн;
Ня вамі ўсё здабыта,
абтлусьцелыя каркі,
Гэта вам ня боская комэдыя
Дантэ
І ня сонэцікі
славутага Пэтраркі.

Бач, як жыцьцёвы карабель
распроставаецца, –
Здорава навучыўся
мінаць
мелі.
А поэты пілікаюць (можа мне здаецца) –
Адчыніць-бы душ іхніх
зачыненыя
разьмеркавацелі.

Вось яно:
рукі закасаны, –
ня шукай ратунку,
Галава ня скінецца
ад трансмісыйных
казусаў.
І...
сэрца,
здэцца,
выскачыць
прастрэленым ладункам –
радасна!

БЛА-БЛА-БЛА
БЛА-БЛА-БЛА
БЛА-БЛА-БЛА
БЛА-БЛА-БЛА
БЛА-БЛА-БЛА
БЛА-БЛА-БЛА
БЛА-БЛА-БЛА
БЛА-БЛА-БЛА
БЛА-БЛА-БЛА
БЛА-БЛА-БЛА
БЛА-БЛА-БЛА
БЛА-БЛА-БЛА



ГУЛЬТАЙ

Гультая відаць здаля –
З палачкай заўсёды
Шпацырую, тра-ля-ля,
Ў пошуках прыгоды.
Падыходжу да карчмы,
Грукаю з павагай:
- Адчыняйце, гэта мы,
Я з маёю смагай.
- Смага зранку? Не дурэй!
Ты гарэзьнік, хлопча!
Бла-бла-бла... А я далей –
Пыл “гарэзьнік” топча.
У крыніцы шмат вады –
Ой, пап'ю цяпер я!
І, як певень малады,
Атрасаю пер'е.
Мужычок вядзе казу:
- Што чуваць на сьвеце?
Абы-што яму вярзу:
- Сьвеце-беце-меце...
Гультая відаць здаля –
З палачкай заўсёды
Шпацырую, тра-ля-ля,
Ў пошуках прыгоды.
(пераклад з ідыша А. Хадановіча)

Віно старое бродзіць ува
мне,
І з глыбіні віна
Крыніца светлай радасці
імкне
І б'е са дна, і п'е мяне да дна.

Я сонца, я раса, я вір надзей,
Шчаслівы, як
Вячысты дуб, што неўспадзеў
надзеў
Юначы фрак.

Я — прага быць, я —
станаўлення спеў,
Я — запавет
Таго, у кім старым віном кіпеў
Наш п'яны свет!

(пераклад Андрэя Хадановіча)

Зорачка, зорачка, добры мой веснічак,
Ты прыляці да старых нашых веснічак.

Там, у мястэчку, ёсць вузкая вуліца,
Ўбогая хата на вуліцы туліцца.

Там ля акна мая жоначка бедная
Плача… Суцеш яе, зорка ўсёведная.

Ты ёй шапні, што наладзяцца справы,
Ўсё будзе добра, бо Госпад ласкавы.

Слоўца — пра Янкеле, Леечку, Рывачку.
Хай мне напішуць яшчэ, хоць па
ўрывачку,

Ліст пацалую, а ты мне — яшчэ дары!
Янкеле хай не лянуецца ў хедары,

Вывучыць кадыш, бо лёс — не забавы.
Можа… хто ведае… Госпад ласкавы.

(пераклад Андрэя Хадановіча)





ВЯСНА Ў ЛІЦЕЙНАЙ

Цэлы дзень ад ранку нестрыманым
Сьветам сонца пырскае з двара.
Паркалёвым белым «сарафанам»
Выглядае у бяроз кара.

Сьпевамі напоўніліся сьцены,
Ўсё гурчыць матор, рамень ў бягу,
Быццам кроўю, як з ускрытай вены,
Льецца ў формы ўніз густы чыгун.

Раскідалісь сінія талстоўкі,
Колькі іх!.. як ў полі васількі.
Спрытныя, устойлівыя крокі,
Ў кожным маладым сьмяецца «КІМ».

А чыгун ўсё льецца, льецца, льецца...
Духата... Эй, вокны адчыняй!
Птушак звонкі сьпеў ў высі нясецца.
Гэй, здарова, кучаравы май!

Спрацавалася, спацела сонца,
Хутка зьменіць месяц-дырыжор,
Згоніць вецер воблачныя колцы,
Зорачны пачую звонкі хор.

Тапалі надзелі гарнітуры,
Зазьвіняць, зашапацяць ў цішы.
Цёплым вечарам зялёнакудрым
Запяюць пра блюзы ля машын.



СІНІЯ КВЕТКІ...

Сэрцу песьняй
маліцца
– ня нова.
Хочу споведзь я любай
прынесьці...
Ах вы, словы,
Цудоўныя словы!
Ах ты, песьня,
Чароўная песьня!..
Ты сказала з журбою ласкавай
Скрозь усьмешку журботных
брывей:
– Мне ня трэба
Ні песень,
Ні славы,
Толькі ўрэшце ты стань чалавек!



Адказаў сваёй любай на гэта:
– Чорнакудрая радасьць мая,
"Сумасшедшее сердце поэта" –
Цямней ночы,
Сьвятлей серабра.
І казала ласкавей чаромхі,
Сінім цьветам абсыпала слоў:
– Ну, пашто,
Ну, куды цябе
гоніць
Твайго сэрца ўскіпеўшая кроў?
Ну, пашто ты згараеш ў піўнушках
І вядзеш барацьбу з ветракамі,
Калі вочы твае
гэта сушаць,
Калі ў сэрцы ад гэтага – камень?
Словы кволыя
больлю сум точаць,
І ня ведаю, што адказаць...
Адказалі ёй сінія вочы:
– Прадалася
мая
чыстата...
Адказалі каханай на гэта:
– Адпачыць трэба сінім ад мар,
Толькі сэрца так больлю ўскіпела,
Толькі ў сэрцы вішнёвы пажар.
Адказалі ў імглістых завеях –
Сінь вятры параскідаюць ў клочы,
Заквітнець яшчэ сінь не пасьпее,
Сінь чаромхай раскідае ноч.
Ну, а сінь?..
Мы таму мо' і бачым,
Бо мы ведаем, –
ёсьць і туманы.
Вось таму гэтак п'ю я і плачу,
Што цьвярозым сіней за ўсіх стану.



Ў мармуровым сьнягу
вецер
песьні
пісаў...
Вецер сьпеў
завіваў
у лілёвы
вянок, —
Я цябе пакахаў,
Я цябе пакахаў...

Ў мармуровым сьнягу
вецер
песьні
пісаў...
Зь сінявокіх нябёс,
зь несызьмернай
глыбі
вецер зоркі
зрываў,
зь непакорнасьцю нёс.

Зьнікнеш зоркай і ты...
зьнікнеш
зоркай
і ты
зь сінявокіх нябёс,
зь несызьмернай
глыбі...

## 16/45

Даверлівы - зусім не скептык -
Ўсяму я веру, ўсё цаню...
Як толькі ноч накіне кепку,
Лаўлю і шум, і цішыню...

Мне ўсё тут люба...
Ўсё знаёма -
Будынка даўняга фасад...
Ў забытым садзе - патаёма
Так хітра сплеценых прысад...

Завулкаў ціш і вуліц шумы,
Недатыкальнай сіні гладзь,
І гэты дом, і сіні нумар
На ім:
16/45.

З НІЗКІ “СМЕРЦЬ”

Калі я буду паміраць
і рабіцца дакучным целам...
А я хачу, каб гэта было ня хутка, – таму
Я цяпер хачу жыць, жыць, –
жыць жыцьцём, аднаму мне зразумелым,
Жыцьцём, уласьцівым толькі мне аднаму.
Бачыць, як сонца сьмяецца на брудным акне,
Акунаць сваё цела ў халодныя ўлоньні рэчак,
Плысьці на моры ў рыбачым чаўне,
Хадзіць па полі сярод цнатлівых грэчак.
Я хачу спатыкаць сяброў і таварышак,
маладых і сталых;
Хачу даверлівых жаночых пацалункаў
і моцных поціскаў мужчынскіх рук,
Каб адчуваньне жыцьця ніколі мяне не пакіда
Поўнае і шматкаляровае,
як вясёлкавы паўкруг.
Я хачу наведаць аграмадныя гарады,
Далёкія краіны з мовамі чужымі, –
Я хачу,
каб сьвет
паветра,
сухазем'я
і вады
Жыў,
дрыжаў
у кожнай, самай дробнай маёй жыле.
Каб мяне хвалявалі
страты, здабыткі, разьвітаньні і стрэчы,
Каб я мог сказаць пра сябе:



«Я жыў, пакуль тэрмін мой не прайшоў...
Каб мяне працінаті сваёю магутнасьцю рэчы
Блізкіх маіх спадарожнікаў-таварышоў.
Хачу
жыць,
падаючы,
але не занепадаючы.
Высока паднятым сілай часоў,
здабыць сталае месца на гале зямной.
Ведаю свае заганы.
Але гэта – мая задача.
Мне –
дваццаць першы год.
Жыцьцё ня за, а перада мной

Жыць

Любіць

ЖАДАННЕ

Адыходзь, трывога, забірай з сабой
Плач і крыўду хлопца з чулаю душой!

Ты адна сягоння мне свая між ніў,
Быццам я згараю ў песенным агні.

Быццам я далёка, ў вочы б'е туман
І нічога светлага больш ў жыцці няма.

Ах, мой край каханы, залаты мой край,
Не хачу так рана ў песнях дагараць!

Я йшчэ жыў так мала і так мала пеў,
Ну дык дайце ж, братцы, мне пажыць цяпер.

Дайце на прыволлі сэрца з сінню зліць,
Каб з другімі марыць і другіх любіць!

АДЫШОЎШЫМ

На вашых магілах мы справім вяселле
І душы зальём старадаўнім віном.
Успомнім,
Як дні нашы ў нетры ляцелі,
Каб больш не вярнуцца ніколі ізноў.

Мы ў майскія ночы паплачам над вамі,
Раскажам вам вашы
Пачуцці
І сны,
Як сэрца квітнее зарой і агнямі,
Як граюць жаданні на струнах вясны.

А ў доўгія ночы зімовых ігрышчаў,
Пад дальнія скрыпкі начных палазоў
Раскажам,
Як вецер бязлітасна свішча,
Цярушачы ў полі змярцвелы свой боль...

Там хвойка упала з надломаным крыкам.
Там свежай крывёй пралілася зара.
На захад узняў хтось марозныя пікі
І кліча у бойку узбураны край.

Мы вучымся жыць.
Мы ствараем законы.
Мы марым аб дальняй нязнанай красе.
У бойку ідзём,
Паміраем з праклёнам,
І смерць нам вянкі на магілы нясе.

А можа быць, такжа
Праз слоту нядолі
Мы пойдзем,
Памром
І не вернемся зноў.
Хтось будзе на нашых магілах вясной
Спяваць з захапленнем пра шчасце
І волю!

Раніца

Раніца...
Сонца з-за ўзгоркаў не выйшла
Ў росах свой твар паласкаць.
Шэпчуць калоссямі ўзвышшы,
Пахне расой сенажаць.
Гай апушыўся туманам,
Гай заглядзеўся у высь, -
Кудрамі лісцяў з кургана
Ў прозалаць возера звіс.



Ўпрадае дым у залатую гладзь,
Па-над прасторамі бярозавая просінь,
Ружовы дзень спусціўся падрамаць
За верхавінамі смалістых сосен.

Мядовы водар кружыць галаву...
У цішыні задумаліся далі.
Рамашкі белыя аснежылі траву
І ў туманах салодка задрамалі.

О родны край, - саломеныя хаты...
Люблю прастораў казачную муць.
Іду адзін,
А тысячы крылатых
Мне пра любоў адвечную пяюць.

Тут паланець душа не перастане,
Тут не астыне ў жылах кроў...
Тут кожны крыж - адвечнае змаганне,
Тут кожны куст - адвечная любоў...

О, тут усё...
Так хочу жыць і верыць, -
Аддаць душу прыгожасці палёў,
Гатоў скакаць вясёлым піянерам
Пад залатыя гуслі салаўёў.

Па-над прасторамі
Бярозавая просінь
Ўпрадае дым у залатую гладзь,
За верхавінамі смалістых сосен
Ружовы дзень спусціўся падрамаць.

Я маладЫ

Хто?

Хто прайшоў — галаву павесіў.
(Міліёны пудоў у гадах.)
Ну, а я малады — мне весела
разагнацца ў мяцежную даль.

Мне шумчэ — сусветнае свята
Мне прэпоны — большы разгон
Я цяпер без багацця багаты
На зары квітнеючых дзён
Гэта кроў не баіцца смерці,
Гэта сэрца распаміць лёд
Гэтых думак кіпучага смерчу
Не абгоніць птушыны лёт.

Вось вышэй бы за ўсіх узняцца,
я увесь — непакорны шквал.
Што ж рабіць, калі дух юнацкі
агарнуў ваяўнічы запал;

што ж рабіць, калі фарбы раніцы
у грудзёх завялі карагод;
што рабіць, калі кроў барабаніць —
заклікае ісці у паход?

Я мне весела
малады

**Хто прайшоў — галаву павесіў.**
**(Міліёны пудоў у гадах.)**
**Ну, а я малады — мне весела**
**разагнацца ў мяцежную даль.**



НА СМЕРЦЬ "МАЛАДНЯКА"

Дол капалі яму
далакопы даўно,
далакопы чужыя,
ня нашы:

— Вы падмурак для нас,
для сяўбы нашай гной,
Для жывёліны нашае паша...

Самі вінны ва ўсім.
Ляжа ганьба на нас;

Наша воля,
наш розум
і сіла

Хай маўчаць і цяпер,
ў гэты дзень, ў гэты час

Над глыбокай і сьвежай магілай.

[redacted]

Я [redacted]

[redacted]в[redacted]ы [redacted]

[redacted]х[redacted]
[redacted]о [redacted]дж[redacted]

[redacted] у [redacted]



ПРЫСЯГА

Я не чакаў

І не гадаў,

Бо жыў з адкрытаю душою,

Што стрэне лютая бяда,

Падружыць з допытам,

З турмою.

Прадажных здрайцаў ліхвяры

Мяне заціснулі за краты.

Я прысягаю вам, сябры,

Мае палі,

Мае бары, —

Кажу вам — я не вінаваты!

